**Начная варта.** З прычын начных грабежствау і нападау у горадзе, мястовые дамауласьнікі паднялі пытаньне аб уладжэньні начнай варты.

**Пазіннасьць фурманак** усе яшчэ ідзець неплянамерна. Многіе сяляне маняцца дзеля гэтага распрадаць сваіх каней. Многіе сяляне затрымліваюцца па дарозе к гораду калі вязуць прадукты і часам дзеля гэтага церпяць. Гэта выклікае сярод сялян паніку і затрымлівае падвоз прадуктау гораду.

**Збор кажухоу**, як нам перадаюць апавешчан у некаторых весках па 1 кажуху з хаты. Многіх небагатых сялян гэто паставіло у цяжкае становішчо.

**У Савецкую Расію** першы эшалон, пасьля выпауненьня усіх фармальнасьцяу, выедзе перад самымі Калядамі.

**Зыскі аб высяленьні.** На недаімшчыкау-арандатарау зямель насьледнікау Валканоускага (3 часьць, Казакоускі зав.) падаюцца зыскі аб зносе дамоу і высяленьні, у 2-х тыдневы термін ад дня адтрыманьня павестак.

Усяго арандатарау у гэтых землях 150.

**Апэляцыйны аддзел** пры акружным судзе, дзеле разглядау скаргау на рашэньні і прыгавары міравых судзьдзяу, адчыняецца у канцы сьнежня.

**2 сталоукі для безработных**, адна—у дух. сэмінарыі, другая—пры 2-м дабрачынным рускім т-ве, адчыняюцца гэтымі днямі „истинно-русским“ Камітэтам.

Запісь, глауным чынам, чыноунікау і чыгуншчыкау „исто-русскаго“ напрамку.

**Чыгуншчыкам** 15 сьнежня будуць выданы наградные на сьвято у 1/2 аклада пэнсіі, а так сама з таго часу уладжываецца дармовая мэдыцынская дапамога безработным.

**Менскі павет** разьбіты на чатыры судзебные і два сьледзтвеные участкі: судзебные—у Менску 2 участкі, у Заслау'е і у Сталбцах; сьледзтвеные—Менск, Койданаво.

**Гандлевы рынак** у Менску за апошні час здабыу шмат таварау з заграніцы і Польшчы. Есьць шмат галянтарэі і бакалеі. Аднак тавары мала прадаюцца, глауңае купляюць вясковые гандляры. Гандляры тутэйшые ня маюць ахвоты прадаваць тавары, бо спадзяюцца у хуткім часе вывесьці іх у Савецкую Расію.

**На біржы** апошнімі днямі ціха. У спросе толькі царскіе; за 100 р. цар.—126—128 польск. марак. За 1000 р. дум.—395—400 р. цар. Старые і рваные таней. 100 р. кер.—18 мар. Розьніца паміж буйнымі і дробнымі грашамі—2—3%.

**Цукер** для Менску, як паведамляе мястовы харчовы Камітэт, будзе дастаулены сюды не раней новага году, у недастатачным ліку. Дзеле гэтага цукер вельма дорага каштуе—рафінад да 60 р. фунт.

**Сахарына** падаражэла на 1600 р. за кіло. Запасы яго вывезены з Менска у Расію.

**Бульба** з Познані у вялікім ліку прыбыла марожаная і дзеле няпрыгоднасьці для яды, прадаецца як корм для жывелы.

## ТЭАТР.

Сягодня у Гарадзкім Тэатры адбудзецца чарговы, агульна-даступны, народны спэктакль „Т-ва Працаунікоу Беларускага Мастацтва“. Пастаулена будзе опэрэта Ф. Аляхновіча „Птушка шчасьця“ у 2-х актах. Грандыезны дывэртысмэнт пад назваю „Народны пясьняр“, сольные і харавые выступленьні Беларускага Хору Цяраускага. Пачатак а 7 г. увечары.

Цана білетау ад 1 да 8 марак.



## Допісы.

**Радашкоуская воласьць, Вялейск. пав.**

Навуковая справа у нас няцікавая. Школы пазачыняны. Вышэйшая пачатковая школа у Радашковічах так-сама зачынена уладай. Каб адчыніць яе у беларускай мове ніхто не клапоціцца. Па весках сяляне робяць пастановы аб адчыненьні беларускіх школ. Школьная справа ад гэтага ні на крок не пасуваецца наперад. Каб ня была мая вестка галаслоуная, дык я пакажу прыклад Сычаускай школы, дзе сялянамі дауно зроблена пастанова аб адчыненьні школы у беларускай мове. Пастановы гэтые пасланы каму належыцца у Менску і у Вялейку, але дагэтуль ніякага адказу няма.

Кепскае жыцьце нашых настаунікау. Сядзяць яны галодные і халодные бяз пэнсыі бяз жаднай дапамогі. А Сычауцы не дапамагаюць сваім настаунікам і за гэта іх хваліць ня прыходзіцца.

Цікавяцца у нашай воласьці і агульна беларускай справай, а, глауным чынам, беларускім войскам. Ахвотнікау да войска знайдзецца шмат. Кепска толькі, што беларускіе газэты рэдка калі даходзяць да нас. А патрэба у іх вялікая, бо распускаюцца розные цемные чуткі.

Вярбоука ахвотнікау да беларускага войска дала-б вельмі добрые вынікі у нашай воласьці, але каб вярбоушчыкам зьявіуся афіцэр, ці хто другі, вядомы нашаму сялянству. Каб знаді яго, як беларуса. А, калі будзе чужы, незнаемы, дык ня можна тады спадзявацца на вялікі лік ахвотнікау. Гэта дзеле таго, што нашае вясковае сялянства (трэба думаць, што так і усюды) мала асьвядомлено у політычным палажэньні Беларусі і усялякі вясковы грамадзянін баіцца, каб яго не падмануу чужынец.

Вайсковая Камісія добра зрабіла-б, каб гэта зауважыла і каб пасылала вярбоушчыкау у тые мейсцы, скуль яны родам. **Р.**


*Рэдактар-выдавец Ядв. ЛУЦЭВІЧ.*




**Правленiе Союза Об'единенных Кооперативов.**

(б. Минскiй Центральный Рабочiй Кооператив) доводит до свѣдѣнiя своих пайщиков, что им получена большая партiя сельдей лучшаго качества (голландскiе и шотландскiе), каковые поступили в продажу во всѣх лавках Кооператива:

голландскiе сельди продаются по 5 руб фунт.
Шотландскiе „ „ по 5 руб. 50 к. фунт.

В лавках означеннаго Кооператива также продаются оцинкованные битоны для керосина, вмѣщающiе 1 пуд, по 25 р. шт.

ПРАВЛЕНIЕ.

Менск. Друкарня Інвалідау.